


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

4 ліпеня 2003 года

№ 27 (428)
Выходзіць па пятніцах

ПЛЮС Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёну**

## Тэлефоны-аўтаматы

ВАЛОЖЫН. На кантрольна-прапускным пункце мясцовай ваеннай часці ўстанавілі універсальны тэлефон-аўтамат, па якім можна званіць па горадзе, рэспубліцы і ў замежжа.

Цяпер на Валожыншчыне 34 такія тэлефоны. 10 з іх — у райцэнтры. Для карыстання імі неабходна адзіная тэлефонная картка.

Наталля ШТЭЙНЕР.

## Альпійскія горкі

ВІЛЕЙКА. Альпійскую горку - высокую клумбу - зрабілі каля раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (РЦГіЭ).

У горадзе ўжо ёсць падобныя. Але ў супрацоўнікаў РЦГіЭ асаблівая. Іх горка, засаджаная прыгожымі кветкамі і выкладзеная каменнямі, — 4 ярусы ў вышыню.

Ірына РАБУШКА.

## Цяпер ведаюць усе

СМАРГОНЬ. Журналіст са Смаргоні Ала Клемянок стала членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Рэкамендавалі яе Ніл Гілевіч, Мар'ян Дукса, Данута Бітэль, Віктар Шніп. А своеасаблівым пропускам у саюз стаў зборнік "Яны не ведалі мяне", які ўбачыў свет у 1999 годзе.

Таццяна СКАРЫНКІНА.

## Знайшлі аўтамат

МЯДЗЕЛ. У панядзелак на нечаканую знаходку натрапілі, калі разбіралі старыя домікі базы БДУ ў Купе. Тут адшукалі ствол і механізм аўтамата часоў II сусветнай вайны.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Трэба плаціць!

АШМЯНЫ. Новы метад барацьбы з неплацельшчыкамі ўкараніў мясцовы цэх прыроднага і звадкаванага газу. Гараджанам, што не разлічваюцца за блакітнае паліва, спецыялісты службы ставяць на газавыя краны заглушкі.

З пачатку чэрвеня не запальваліся гарэлкі пліт у кватэрах шасці ашмянцаў. Літаральна ў апошні дзень месяца да заканапаслухмянай кагорты далучылі яшчэ аднаго грамадзяніна, доўг якога цэху прыроднага і звадкаванага газу склаў за год 37 тысяч 810 рублёў. Час зразумець, што за ўсё трэба плаціць.

Марына СЛІЖ.

## Музею – 55

МАЛАДЗЕЧНА. Заўтра, 5 ліпеня, у мемарыяльным купалаўскім запаведніку "Вязынка" адбудзецца свята паэзіі "З адною думкаю аб шчасці Беларусі". Прысвечана яно будзе 55 – годдзю з дня заснавання першага філіяла музея Янкі Купалы, які наведваюць штогод сотні экскурсантаў.

Аддзел інфармацыі "РГ".

# Цагельня, якая загінула...

**РАДАШКАВІЧЫ. Калісьці гэта прадпрыемства лічылася паказальным і прымала на сваёй тэрыторыі нават замежныя дэлегацыі. Прадукцыі яго ставілі самую высокую марку, а вырабы цэха керамікі экспанаваліся на выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве. Праз трынаццаць гадоў пасля адкрыцця ад міжгаспадарчага прадпрыемства керамічных вырабаў засталіся "рожкі" ды "ножкі".**



Аўтапарк міжгаспадарчага прадпрыемства керамічных вырабаў у Радашкавічах разабраны на запчасткі. У такім жа стане і ўсё абсталяванне завода.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

Людзі кажуць, што на смерць яго асудзілі ў дзень закладкі першага каменя ў фундамент. Некаму ж стукнула ў галаву ўзвесці побач з Радашковіцкім керамічным заводам роднаснае прадпрыемства ды яшчэ прывязаць да старэйшага "брата" эканамічна: электраэнергія, мазут паступалі сюды з тэрыторыі завода. Міжгаспадарчае прадпрыемства, у будаўніцтве якога былі задзейнічаны 248 калгасаў, разлічвалася з ім адразу спраўна. Цэглы, у асноўным для патрэб гэтых жа гаспадарак, выпускалі шмат, добрай якасці, таму ніколі не мелі праблемы са збытам. Яны мужнелі, сталелі з зайздроснай хуткасцю. Неўзабаве многія маладыя спецыялісты, рабочыя мелі не толькі свае пакоі ў інтэрнаце, але і асобныя кватэры, а дзетак вадзілі ў сад прадпрыемства.

Перабудова не мінула Радашкавічаў. Цагельня ўсё часцей і часцей стала адчуваць патрэбу ў энерганосьбітах, працаваць ў доўг. Некалькі разоў яна наогул спынялася, але ўсё ж знаходзіла ў сабе сілы, каб аднавіць жыццё. У 1999 печ перастала дыхаць трэці і, як пасля аказалася, апошні раз.

Генеральны дырэктар асацыяцыі Вячаслаў Мяркулаў нямала прыклаў намаганняў для таго, каб удыхнуць у прадпрыемства жыццё. Ён да апошняга не распускаў калектыў, знаходзіў сродкі на заработную плату, якую хоць з затрымкай на 2-3 месяцы, але выдавалі. 186 радашкаўцаў жылі надзеяй, што змогуць усё ж захаваць свае рабочыя месцы. Але рукі іх на цагельні так і засталіся незапатрабаванымі. Людзі сталі звальняцца, у пошуках працы падаліся ў Мінск, Ждановічы, пакінуўшы прадпрыемства пад апеку вартаўнікоў. Службу сваю тыя неслі спраўна, але ж паспрабуй усачы за тэрыторыяй, куды, як мухі на мёд, зляталіся ноччу зладзюгі з усёй акругі, якім пад сілу было спрэвіцца нават з заваранымі электразваркай дзвярыма.

Апошнім вартаўніком прадпрыемства быў Яўген Барткевіч. Вопытны токар, выдатны слесар, шчыры і сумленны чалавек, які шкадаваў вытворчасць, як сваё "дзіця". На яе тэрыторыі і памёр, адкрыўшы нячыстым на руку людзям беспярэшкодны ўваход, бо пасля яго смерці ў вартаўнікі ніхто ўжо не пайшоў.

На сённяшняй тэрыторыі прадпрыемства, у яго цэхах наўрад ці магчыма працаваць. Абсталяванне разукамплектаванае, тэхніка разабраная, без вокнаў і дзвярэй засталіся сталовая, адміністрацыйны будынак, па некалі ўтульных памяшканнях гуляе вецер і разносіць рэшткі нявывезенай дакументацыі. Не лепшым чынам выглядаюць і цэх керамікі, які славіўся прыгожымі сервізамі і камінамі, механічны цэх.

Былыя работнікі ўжо ні на што не спадзяюцца, але і спакойна глядзець на тое, як гіне прадпрыемства, на якім многія працавалі сем'ямі, не могуць. Наталля Жыглінская – адна з іх. Працавала інжынерам-канструктарам, затым – галоўным тэхнолагам. Яна, а яшчэ Леанора Саакава, былы намеснік дырэктара, і сталі нашымі гідамі ў час сумнай экскурсіі па прадпрыемстве, на якім, як заўважылі жанчыны, хутка ўжо і браць не будзе чаго. Спрытнюгі мясцовага пакрою адкрылі люкі і пакралі нават кабель, а цэнтральны пункт упраўлення разбілі.

З болем і жалем успамінаюць яны былыя часы. А яшчэ – з крыўдай на кіраўніцтва калгасаў, якое не дазволіла ў свой час аб'явіць прадпрыемства банкрутам і прадаць. Глядзіш, знайшоўся б гаспадар, які змог бы наладзіць выпуск прадукцыі ці хаця б захаваць яго ў ранейшым стане. Бо сёння аб велічы і магутнасці міжгаспадарчага прадпрыемства керамічных вырабаў нагадваюць хіба што кусты дзікага кізілу, які для таго, каб упрыгожыць тэрыторыю, прывозілі аж з Баку...

Марына СЛІЖ.

## Што такое IREX?

Больш года працуе ў Маладзечне камп'ютэрны Інтэрнет–цэнтр, які створаны з дапамогай амерыканскай дабрачыннай арганізацыі IREX, якую сёння абвінавачваюць у непрыгожых дзеяннях у Беларусі. Што такое IREX?

2-я старонка

## Прыдумвае жыццё



Вольга Каласей – маладая мастачка з Радашкавічаў. Яна толькі адзначыла першую гадавіну сваёй работы.

4-я старонка

## Вёска Камарова



Некаторыя вёскі маюць гісторыю куды больш цікавую і багатую, чым іншыя вялікія гарады.

8-я старонка

■ ПРАФЕСІЯ

# Злых людзей не бывае

**АШМЯНЫ. Повара Галіну Мацкевіч ведаюць усе ашмянцы. Чаго вартае хаця б прыгатаваная ёй фаршыраваная рыба!**

Поварскай справе Галіна прысвяціла больш за тры дзесяткі гадоў. Спачатку была вучоба па матулінай кулінарнай кнізе. Вельмі падабалася пячэнне выпякаць. Цяпер па гэтай кнізе вучацца гатаваць яе дзеці. Яна ж, адукаваны тэхнік-тэхнолаг па прыгатаванні ежы, штодня робіць крок наперад у сваёй справе. Прыдумвае новыя стравы, напрыклад, рулет з качкі, розныя салаты. Але на рабоце асабліва не пафантазіруеш – ёсць спецыяльны зборнік для грамадскага харчавання, у якім больш за 1000 рэцэптаў. Па ім і павінны гатаваць повары.

Для пашырэння вопыту вывучае кухню розных народаў. Зрабіла выснову, што да беларускай бліжэй за іншыя літоўская. Стравы адны і тыя, толькі назвы розныя. Французскія рэцэпты скарыстаць складана, бо ў нас немагчыма купіць сапраўдныя французскія віны і прыправы. А вось для азербайджанскіх страваў, якія вельмі вострыя, іх можна купіць высушанымі. Раней Галіна любіла ўдзельнічаць ў поварскіх конкурсах. Заўсёды нервавалася, але гэта не перашкаджала перамагаць. Мяркуе, сучасныя конкурсы лепшыя, стравы прыгажэйшыя. «Калі ўдзельнічала я, такой разнастайнасці прадуктаў не было», — кажа яна.

Часта ў падарунак атрымлівае кнігі з рэцэптамі ці пра ежу, харчаванне. Ад сваіх дзяцей - гэта кнігі з рэцэптамі прысмакаў. Абавязкова іх апрабуе і заўсёды знойдзе штонебудзь карыснае для сваёй прафесіі. Галіна ўвогуле любіць чытаць, каб і пра жыццё было, і пра ежу. Вычытала, што ў часы Льва Талстога харчаваліся вельмі проста. У асноўным гэта кашы і вараная рэпа. Брэжневу падавалі заліўную сцерлядзь і цяляціну. «Дакладна так, як мы зараз гатуем на банкеты», - гаворыць повар.


Повар Галіна Мацкевіч гатуе некалькі страваў запар. фота Ірыны Рабушкі

Самай здаровай ежай лічыць сырыя моркву і яблык. А самай вялікай памылкай гаспадынь тое, што яны замяняюць прадукты, якія напісаныя ў рэцэптах, на іншыя. Гэтага рабіць не варта.

Галіна Мацкевіч кажа, злых людзей няма, уся справа ў тым, што яны галодныя.

**Ірына РАБУШКА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 26.06 руб. | 2.07 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2059,00 | 2060,00 |
| Еўра | 2372,38 | 2375,90 |
| Злоты | 531,49 | 534,37 |
| Літ | 687,15 | 688,15 |
| Расійскі рубель | 67,91 | 67,92 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2045/2065 | 2050/2060 |

Маладзечна
## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 25.06 | 2.07 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 12600 | 12800 |
| Сасіскі, 1 кг | 4350 | 4310 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 820 |
| Грэчка, 1 кг | 1450 | 1450 |
| Цукар, 1 кг | 1280 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 1100 |
| Алей, 1 л | 1750 | 1750 |
| Маянэз, 200 г | 470 | 470 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 750 | 850 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 680 | 800 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1100 | 1100 |
| Капуста, 1 кг | 1000 | 700 |
| Морква, 1 кг | 1000 | 1500 |
| Лімоны, 1 кг | 2400 | 2300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1900 | 1900 |
| Клубніцы, 1 кг | 3500 | 4000 |
| Чарэшня, 1 кг | 3500 | 5000 |
| Памідоры, 1 кг | 2300 | 1800 |
| Агуркі, 1 кг | 800 | 700 |
| Кавуны, 1 кг | | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 2000 | 1500 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 600 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 1800 |
| Масла, 1 кг | 4400 | 4200 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 1600 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | 4000 |
| Бульба маладая, 1 кг | 2000 | 1500 |
| Клубніцы, 5-літр. вядро | 18000 | 14000 |
| Чарніцы, 1 шклянка | | 1000 |
| Суніцы, 1 шклянка | | 2000 |

■ ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Рэгістраваць трэба

**Ці трэба рэгістраваць тэлефон з аўтаматычным вызначальнікам нумара (АВН)? У якіх выпадках уладальніку такога тэлефона можна абысціся без рэгістрацыі?**

**Валерый Паўлаў.**
**Маладзечна, вул. Б.Хмяльніцкага.**

Галоўны інжынер раённага вузла электрасувязі (РВЭС) Мікалай Ліманоўскі сказаў, што тэлефон з АВН рэгістраваць трэба ва ўсіх выпадках. Калі чалавек не зарэгіструе тэлефон з АВН, то яго адключаць. Гэта агаворваецца ў дагаворы, які заключаюць з кліентам, аб выкарыстанні тэлефоннага нумара. Гэта ж напісана і ў правілах паслуг, якія аказваюць мясцовыя тэлефонныя сеткі.

Дзеля рэгістрацыі пішуць заяву на імя начальніка РВЭС, прад'яўляюць пашпарт і сертыфікат на прыбор. Рэгістрацыя абыдзецца ў 1155 рублёў. Потым штомесяц да абаненцкай платы дадаецца 245 рублёў. Тарыфы распрацоўвае рэспубліканскае аб'яднанне «Белтэлекам». Дасылае іх на адрас РВЭС дзяржаўнае прадпрыемства «Мінскаблтэлекам».

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

## Першы банкамат

**МЯДЗЕЛ. У панядзелак у райцэнтры ў будынку філіяла "Беларусбанка" запрацаваў банкамат.**

Мабыць, у рэспубліцы гэта першы такі апарат ў невялікім горадзе. Па ім можна 24 гадзіны ў суткі атрымліваць грошы па пластыкавых картках (прытым, не толькі "Беларусбанка", але і "Visa", "Mastercard" і іншых). Мажліва і аплаціць паслугі сотавай сувязі, а ў перспектыве — і камунальныя плацяжы. З банкаматам можна "кантактаваць" на 4 мовах, у тым ліку — па-беларуску.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Доўга жыць не забароніш

**СМАРГОНЬ. Напрыканцы чэрвеня адразу два смаргонскія жыхары адзначылі свае 90-я ўгодкі. Гэта Агрыпіна Мацвеева і Пётр Смолік.**

На жаль, з імяніннiцай паразмаўляць не давялося. Яна цяпер хварэе. Але яе дачка Вольга згадзілася расказаць пра сваю старэнькую маці...

Агрыпіна Фамінічна – сібірачка, з Томскай вобласці. Нарадзілася ў заможнай сям'і, бацька быў краўцом, у той далёкі час прафесія гэтая карысталася вялікім попытам. Зусім маладая выйшла замуж. Разам працавалі на зямлі: яна – рознарабочай, ён – конюхам. Загінуў муж у блакадным Ленінградзе. Але па сённяшні дзень лічыцца прапаўшым без весткі... Замуж яна больш не выйшла. Гадавала дзяцей, якія раскіданыя цяпер па ўсім былым Саюзе, гадавала унукаў: іх у юбіляршы – 16. Праўнукаў трохі менш – 14. Але больш за іншых да бабулі прывязана сіямская кошка Малу. Ходзіць па пятах, пад лазняй чакае, калі гаспадыня мыецца. А як тая пойдзе ў царкву, дык увесь час енчыць, "плача", як кажуць дамашнія, месца сабе не знаходзіць. Кажуць жа, што жывёла моцна любіць толькі вельмі добрых людзей. Менавіта такая Агрыпіна Фамінічна. І падчас віншавання з 90-годдзем дзеці кажуць ёй толькі словы падзякі.

Пётр Смолік таксама не мясцовы, але прыехаў сюды не сказаць, што здалёк, – з Ардашоў... Жыве адзін, у прыватным доме па вуліцы Кірава. Пахаваў дзвюх жонак. Сам расказвае: "Першы раз ажаніўся, калі мне 20 гадоў толькі споўнілася. Жонку мне выбралі бацькі, з багатай сям'і. Яна харошая дзяўчына была. Добра мы жылі. Зямлі было многа, скаціну дзяржалі. Трох сыноў і дачку нарадзіла. Усё жыццё мы з ёй на зямлі працавалі. А калі мне было 66 год, яна памерла. Прыехаў у Смаргонь. І тут пазнаёміўся са сваёй другой жонкай. Добра жылі. Ужо другі год пайшоў, як яе не стала. Жыву адзін... Пытаецеся, ці ёсць сакрэт даўгалецця? Ну, я піў толькі па патрэбнасці. Не курыў, толькі на вайне. А як яна закончылася, адразу кінуў. Што яшчэ? Усё жыццё працаваў...".

Вось такія нечым розныя, а нечым падобныя гісторыі імяніннікаў. Жылі, працавалі, дзяцей гадавалі. Можа, гэта і проста. Але не ва ўсіх атрымліваецца 90-ы дзень нараджэння адзначыць. Ці не так?

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

## Высадзілі з цягніка

**АСТРАВЕЦ. 47 расіян высадзілі літоўскія пагранічнікі з цягніка Чэлябінск–Калінінград 1 ліпеня на прыгранічнай з Беларуссю станцыі Кена. У гэты дзень па ўзгадненні Літвы і Беларусі ўведзены новы рэжым перасячэння граніцы паміж Беларуссю і Літвой для транзітных пасажыраў з Расіі ў Калінінградскую вобласць.**

Усе расіяне, большасць якіх жыхары Калінінградскай вобласці, былі адпраўленыя на станцыю Гудагай, што паблізу Астраўца. У іх не было адпаведных дакументаў, якія б дазвалялі транзіт. Усяго за дзень з расійскіх цягнікоў было знята 63 пасажыры.

Ад першага чэрвеня спрошчаны транзітны праезд каштуе 5 еўра і выдаецца на тры гады. Можна скарыстацца спрошчаным аднаразовым праязным дакументам, які выдаецца ў цягніку. Але білет у такім выпадку трэба купляць як мінімум за 28 гадзін. Пасажыра павінны праверыць у літоўскім пасольстве.

Пасажырам, якія апынуліся 1 ліпеня на пероне Гудагайскага вакзала, пашчасціла. Насустрач з Калінінграда рухаўся цягнік са спецпрадстаўніком прэзідэнта Расіі па праблемах Калінінградскай вобласці Дзмітрыем Рагозіным. Разам з літоўскімі дыпламатамі ён асабіста правяраў, як пройдуць першыя саставы. У Гудагаі ссаджаныя з цягніка расіяне запатрабавалі сустрэчы з Рагозіным і яе атрымалі. Вячэрнім маскоўскім цягніком іх усё ж накіравалі ў Калінінград.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Ці цвіце папараць-кветка?

**(легенда і рэчаіснасць)**

Святкуюць Купалле яшчэ з часоў язычніцтва. Праўда, тады яго адзначалі ў перыяд летняга сонцастаяння, калі быў самы доўгі дзень, і прырода дасягала найвышэйшага росквіту. Здавалася, і сонца найгарачэйшае, і вада пад яго ўздзеяннем становіцца самай цёплай і чыстай. Таму і святкаванне перш за ўсё пачыналася з купання. Гэта і дало назву святу – Купалле, Купала.

Калі на нашай зямлі прынялі хрысціянства, царква прымеркавала свята Купалле да 7 ліпеня – дня нараджэння Іаана Прадцечы. Назва яго набыла нават двайное імя – Івана (Яна) Купалы. Святкаваць пачалі ў ноч з 6 на 7 ліпеня. Удзень дзяўчаты збіралі розныя святаянскія зёлкі, сушылі і захоўвалі як моцныя цудадзейныя лекі. Плялі вянкі і з дапамогай іх варажылі на вадзе. Ноччу збіраліся ля кастра, вадзілі карагоды, танцавалі, скакалі праз агонь.



Чароўную папараць-кветку шукалі нашы прашчуры, шукаем мы, будуць шукаць нашыя нашчадкі. Фота IREX/ProMedia.

З цягам часу фантазія людзей нарадзіла легенду, згодна з якой апоўначы з 6 на 7 ліпеня ў гушчары лесу зацвітае кветка папараці, якая можа даць чалавеку празорлівасць і неабмежаваную сілу, вечную маладосць, здольнасць разумець мову раслін і жывёл. Гэтая легенда нарадзілася вельмі даўно, калі людзі думалі, што ўсялякая расліна павінна ўтварыць кветку, а ад яе насенне, каб прадоўжыць свой род на зямлі.

Папараць – шматгадовая травяністая расліна. Расце пераважна ў вільготных цяністых месцах, пад полагам лесу.

Калі летам прыўзняць ліст папараці, на ніжнім баку можна ўбачыць невялікія бугаркі; у іх знаходзяцца кучкі дробных мяшочкаў, у якіх выспяваюць споры. Разгледзець мяшочкі са спорамі можна толькі пад мікраскопам. Спелыя споры выпадаюць, разносяцца ветрам і, трапіўшы ў спрыяльныя ўмовы, прарастаюць. З іх развіваецца лістападобная зялёная пласцінка – зарастак. На ніжнім баку зарастка ўтвараюцца мужчынскія гаметы-сперматазоіды і жаночыя гаметы-яйцаклеткі. Пад зарасткам атрымліваюцца кропелькі расы або дажджу, па якіх сперматазоіды і падплываюць да яйцаклетак. Адбываецца апладненне. Развіваецца зародак, які паступова ўтварае корань і кароткае сцябло з першым лістом. З цягам часу і вырастае расліна, якую мы называем папараццю. Так што на самой справе папараць ніколі не зацвітае.

**Тое, што вы прачыталі, ужо было апублікаванае. І пасля першай публікацыі мой даўні сябар вучоны ляснічы Рыгор Мароз патэлефанаваў мне:**

— Віншую, ты правільна напісаў пра папараць-кветку! Але, ці ведаеш, што паслужыла асновай легенды аб ёй?

— Не, — адказаў я.

— Дык выберы час і ў ноч з 6 на 7 ліпеня пойдзем у лес, там я і пакажу табе гэтую саму аснову.

... Дзень яшчэ толькі пакідаў ускраек лесу, а яго глыбінку ўжо густа запаўняла цемра. Птушыныя галасы змоўклі, разам з імі сціхлі і іншыя гукі. Спякота неахвотна выходзіла з ляснога імшару, марудна ўступаючы месца начной прахалодзе. Сцяжынка, на якую мы звярнулі з лясной дарогі, хутка прывяла нас у высокія зараслі папараці. Пацеркамі рассыпаныя на яго лісцях маленькія зеленавата-блакітныя яркія кветачкі-агеньчыкі моцна прывабілі мае вочы.

— Бачыш, — лёгка дакрануўся да майго пляча Рыгор і накіраваў пучок праменняў свайго кішэннага ліхтарыка на ззяючыя кветкі. На зямлю пасыпаліся дробненькія жучкі-чарвячкі, а чароўныя "кветкі" ў папараці зніклі...

— Вось гэтыя жывыя агеньчыкі, напэўна, і сталі крыніцай для стварэння легенды аб таямнічай кветцы, — прадаўжаў мой субяседнік. – А памятаеш як пісаў пра яе Гоголь у сваёй аповесці "Вечер накануне Ивана Купала"? І прачытаў на памяць наступныя радкі: "Глядь, краснеет маленькая цветочная почка и, как будто живая, движется. В самом деле чудно! Движется и становится всё больше, больше и краснеет, как горячий уголь. Вспыхнула звёздочка, что-то тихо затрещало, и цветок развернулся перед его очами, словно пламя, осветив и другие около себя".

Так праніклівёна і пераканаўча ажывілі народную легенду талент і фантазія пісьменніка.

— А ведаеш, чаму яны, гэтыя светлячкі, выпраменьваюць святло і адкуль яно ў іх бярэцца? – задаў апошняе пытанне Рыгор і тут жа пачаў на яго адказваць:

— Гэта загадка таксама разгаданая навукай. Аказваецца, мужчынская істота разглядаемага намі жучка мае крылы і добра лятае, а ў жаночай крылаў няма. Яна не лятае, але добра свеціцца. Святло выпраменьваюць дзве шыракаватыя пласцінкі, што пакрываюць жывоцік. У клетках названых пласцінак і жывуць паразітамі бактэрыі, якія свецяцца. Але такое сужыцельства карысна для абодвух арганізмаў. Жучыхі-светлячкі даюць бактэрыям "кватэру" і харчы, а бактэрыі забяспечваюць гаспадыць святлом. Даказана і тое, што свячэнне самкі дапамагае самцу адшукаць яе і прадоўжыць род.

Вось табе і маё навукова абгрунтаванае дапаўненне твайго артыкула, — закончыў свае тлумачэнні Рыгор.

**Альбін МАКАРЭВІЧ.**

■ **ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ**

## Лёгка быць маладым?



**Аляксандр Шах, намеснік дырэктара рынку райспажыўтаварыства:**

– У наш час складана. Асабліва гэта тычыцца фінансавага і жыллёвага пытанняў. Раней маладым жылося лягчэй. Была гарантыя і стабільнасць. У цяперашняй моладзі гэтага няма. Яны кінутыя на выжыванне.



**Марыя Абрамовіч, суддзя суда Маладзечанскага раёна і горада Маладзечна:**

– І лёгка, і не. Лёгка, таму што цяперашняя моладзь больш разняволеная і незалежная, чым ранейшая. Цяжка з-за таго, што ім мала што даступна. У першую чаргу гэта культурныя мерапрыемствы. Таму сучасная моладзь духоўна бедная і менш сацыяльна забяспечаная і абароненая.



**Наталля Мазура, псіхолаг цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей:**

– Лёгка. Шмат перспектыў, магчымасцяў – усё наперадзе. Увогуле, тым, хто ведае сабе цану, упэўнены ў сабе і ставіць канкрэтныя мэты, лёгка і камфортна ў любым узросце.



**Кацярына Вайтэнка, прадавец:**

- Складана і лёгка адначасова. Жыццё наперадзе і адкрытыя ўсе дарогі. Толькі, на жаль, іх мала. Бо цяпер усё залежыць ад грошай. І добра відаць, хто багаты, а хто бедны. Раней гэта было не так відавочна. Год ад году моладзі жыць цяжэй.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ **ПАРТРЭТ**

# Прыдумвае жыццё

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладая мастачка Вольга Каласей з Мінска пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў па размеркаванні трапіла ў Радашкавічы на адкрытае акцыянернае таварыства «Белмастацкераміка».**

Толькі-толькі яна адзначыла першую гадавіну сваёй працы на прадпрыемстве. Менавіта з яе пачынаецца жыццё керамічнага вырабу, бо яна яго прыдумвае. Першае, што сышло з яе рук – сабака (зразумела, сувенірны). Калі прыехала Вольга ў Радашкавічы, адразу кінулася ёй у вочы безліч сабак на вуліцы. Падумала, а чаму б і не. Трэба гэта «занатаваць» у кераміцы. Потым былі сервізы для гарбаты і кавы, вазоны, маленькія сувеніры.

Цяпер на прадпрыемстве наладзілі выпуск піўных куфляў з ручкай у выглядзе амаль што сапраўднага рака. Гэта таксама справа Вользіных думак ці рук. Пытаюся, што натхніла на гэты «вобраз». Кажа, дык гэта ж і для падарунка добра, і практычна. Керамічны выраб варта запускаць у вытворчасць, калі ён зручны для многіх. «Канешне, я вельмі люблю рабіць гумарыстычныя сувеніры, вырабы, нічым не падобныя на іншыя, але ж яны для асобнага чалавека», – гаворыць мастачка. Са сваіх работ захавала толькі студэнцкія. Астатнія – на фотаздымках. Цяпер у думках сервіз для жаніха і нявесты.



Мастачка з Радашкавічаў Вольга Каласей. фота Ірыны РАБУШКІ.

Вольга кажа, што лягчэй за ўсё тварыць пад электронную музыку. Пад Вівальдзі добра атрымліваюцца вазоны. Ад свайго настрою праца не залежыць. Канешне, калі ён добры, натхнення больш. Справа спрыяцца ад улюбёнасці ў жыццё, з чым у дзяўчыны ўсё як мае быць. Керамічныя вырабы, якія прыдумвае мастачка, у цеснай сувязі з надвор'ем за вокнамі. Напрыклад, летам яна «апранае» кераміку ў яркае «адзенне». Адным словам, «надзявае» свае керамічныя вырабы па сезоне. Гэта менавіта тое, што патрэбна пакупніку. Вольга праверыла сама.

**Ірына РАБУШКА.**

 



# Лёсы чалавечыя

**Ці ж магла я падумаць пра тое, што ў далёкай Каліфорніі, на беразе Ціхага акіяна, дзе размясціўся вядомы на ўвесь свет горад, пра які мараць усе акцёры кіно, і не толькі, – Лос-Анджэлесе, я сустрэну чалавека, які быў ваеннапалонным у час Вялікай Айчыннай вайны ў Маладзечне.**

Сустрэча наша адбылася выпадкова. Мае сябры, у якіх я знаходзілася ў той час, сабраліся на адпачынак у выхадныя дні ў невялічкі курортны горад Палм Спрынг, вядомы на ўсе Злучаныя Штаты тым, што туды ў зімовыя месяцы з'язджаюцца багатыя састарэлыя людзі, каб пагрэць свае косці.

За мной і маімі сябрамі павінен быў заехаць на аўтамабілі знаёмы, пра якога я ўжо чула. Рускі, клічуць Філіп, 82 гады, сусед па мястэчку для пенсіянераў (у Палм такіх мястэчак–кааператываў шмат, жытло ў іх прадаецца толькі тым, каму споўнілася 55 год).

Пад'ехала машына, з яе выйшаў высокі, статны прыгажун–мужчына, на выгляд, гадоў 70. Вы мне не верыце, што ў 70 год можна быць стройным і прыгожым? А я вось пераканалася ўвачавідкі, што і ў 82 можна быць такім.

Філіп ужо чуў аб маім прыездзе і вельмі хацеў пагаварыць са мной. Мы доўга і цікава гутарылі аб перабудове ў краіне, аб Гарбачове, аб цяперашнім жыцці ў Савецкім Саюзе і неяк неўпрыкмет перайшлі на размову аб жыцці ў Беларусі. Калі я сказала, што прыехала з Маладзечна, Філіп стаў расказваць мне аб мясцінах, якія яму запомніліся, калі яго змардаванага і параненага разам з астатнімі ваеннапалоннымі фашысты гналі ў лагер, размешчаны на месцы цяперашняй вайсковай часці ў Маладзечне. Філіп да гэтага часу памятае царкву і ўсе будынкі на Старым Месце.

Расказваючы пра тыя часы, пра сваю маладосць, пра палон, пра лагер у Маладзечне, затым у Будславе, Філіп так расхваляваўся, што не стрымаў слёз. Я адчувала, што з'яўляюся ніткачай, якая звязвае Філіпа Лісава, канадскага падданага, які пражыў 54 гады ў Злучаных Штатах і Канадзе, з радзімай. Тое, што я з Маладзечна, з Беларусі, з былога СССР ускалыхнула ў Філіпе шмат успамінаў і настальгію, якая зусім нядаўна адпусціла са сваіх учэпістых рук.

Мы сустракаліся яшчэ некалькі разоў у доме маіх сяброў. Дзякуючы Філіпу я пабывала ў прыгожым і дарагім рэстаране "Кітайская кухня", праехала з агляднай экскурсіяй па Палм Спрынгу. Усюды і заўсёды мы гаварылі аб Радзіме – маёй і яго, Філіпа Лісава, якую ён страціў шмат год таму, але заўсёды помніў і любіў. Нязнаныя шляхі гасподнія!

Вайну Філіп сустрэў старшым лейтэнантам у Брэсцкай крэпасці, змагаўся з фашыстамі, выходзіў з акружэння, быў паранены і патрапіў у палон. Першы лагер – для ваеннапалонных у Маладзечне. Цудам застаўся жывым, сведка сотняў смярцей сваіх таварышаў; пахаванні на тэрыторыі лагера, куды былі звалены трупы ваеннапалонных, памятае да гэтага часу. Затым – лагер у Будславе, пазней – у Германіі. Вызвалены з палону амерыканцамі. Дадому ў Ялту не вярнуўся. Чуў пра тое, куды накіроўваюць тых, хто быў у палоне ў немцаў. Сібіры і катаргі не баяўся, баяўся быць расстраляным "ні за што". Завербаваны амерыканцамі ў армію. Служыў у Германіі, Францыі, ЗША. Гэтым і зарабіў пенсію. Жанаты на рускай эмігрантцы. Дзяцей не мае. Жыве ў Канадзе. Ні разу ад пачатку Вялікай Айчыннай вайны не быў на Радзіме.

Калі прыйшоў час майго ад'езду ў Маладзечна, Філіп папрасіў, каб я пабывала на тым месцы, дзе падчас вайны быў фашысцкі лагер, і ўшанавала памяць загінуўшых таварышаў хвілінай маўчання.

Пры расстанні Філіп плакаў. Я ад'язджала, а ён заставаўся адзін са сваімі ўспамінамі, са сваімі болем і маркотай...

Не хлебам адзіным жывы чалавек.

P.S. Просьбу Філіпа Лісава я выканала.

**Наталля МІНОШЫНА,**
**Маладзечна.**



**Шталаг 342. Лагер ваеннапалонных, у якім загінулі дзесяткі тысяч савецкіх салдат і афіцэраў. Нямногім атрымалася выйсці з яго жывым. Кожны год да мемарыяла на яго месцы прыязджаюць наведвальнікі. Проста цікаўныя або тыя, хто страціў тут у вайну сваіх блізкіх. Маладзечанка Наталля Міношына схіліла тут галаву ў хвіліне маўчання, выконваючы просьбу канадца Філіпа Лісава, які цудам уцалеў тут падчас вайны.**

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

# Нязвычны салют дню вызвалення

Партызан асадзіў зморанага каня і выгукнуў бязмежную радасць:

— Та-ва-рышы-ы! Ура-а! У Вілейцы і Куранцы – на-а-шы!

Даўбарова мігам узварвалася суматохай. Людзі выскокваюць з хат, крычаць, захлпаючыся слязьмі небывалага шчасця. Конніка сцягнулі з сядла і доўга падкідвалі над стракатым натоўпам пад шумлівую мітусню і ўзрушаныя крыкі.

— Ну, Васілёк, — звяртаецца Мікола Добрыч да стрыечнага брата, — скокну дадому: ці не пара вяртацца ў родную вёску?

— І я з табой, — адказаў Васіль. – Каб на немцаў не нарвацца... Воўчымі сцежкамі рвуць назад. А паранены звер самы небяспечны. Дык хоць мой наган вазьмі, гранату...

— Усё роўна гэтым ад цэлай зграі не адаб'юся. Прыхапіў больш моцную зброю... – адказаў Мікола і выразна пастукаў сябе па нагруднай кішэні.

Вяртаўся Мікола ў Даўбарова з добрай навіной. Вёска ўцалела, а захопнікаў – і сляды прастылі.

За Кузьмічамі – квяцісты дыван шырокай лугавіны, па якой пятляе рэчка Ментань. Ласкавае ліпеньскае сонейка разлівае лагоду мірнага дня. Толькі ў прыбярэжных кустах – трывожны вэрхал птушак. Раней Мікола насцярожыўся б. А цяпер небяспека згінула. І ён рашуча пакрочыў да кладкі праз Ментань.

Толькі ўглыбіўся ў кусты – на яго накінуліся немцы, звалілі на зямлю, абмацалі з ног да галавы. З нагруднай кішэні выцягнулі яго "моцную зброю".

— Партызан? – злосна спытаў афіцэр у чорнай эсэсаўскай форме.

— Нэй, — непаслухмяным сухім языком запярэчыў Мікола. – Я естэм бауэр. У пана афіцыра ест муй дакумэнт. Аўсвайс, — наўмысна на нямецкай і польскай мовах патлумачыў ён.

Афіцэр запатрабаваў весці іх да Вузлянкі, у якую ўпадае Ментань. Загадаў ісці наперадзе. Побач рушылі двое аўтаматчыкаў. "Як гэта я прапусціў міма вушэй трывогу птушак?" – дакараў сябе Мікола і стаў пільна прыслухоўвацца да гергетання немцаў. З вуснаў афіцэра-эсэсаўца разанула слых і апякло магільным холадам слова "нідэршысэн". "Пакажу Вузлянку, а яны затым мяне расстраляюць, як небяспечнага сведку", — гэтая здагадка балюча сціснула яму сэрца. Але ён зрабіў выгляд, быццам не зразумеў, што яму вынесены смяротны вырак. Прыкінуўся цельпукаватым цюхцяем і пакорна рухаўся да кладкі цераз Вузлянку. Там заўсёды дзяжурыў у засадзе ўзброены дазор, які іх сустрэне свінцовым залпам.

Нарэшце выйшлі на палянку перад кладкай. Мікола, нібы незнарок спатыкнуўшыся, упаў. Але чамусьці не разарваў цішыню мірнага дня свінцовы шквал засады. Праз Вузлянку ляжала толькі адна тоненькая кладачка. Другая, таўсцейшая, валялася на тым беразе. Бакавыя парэнчыны таксама некуды зніклі.

Салдаты спыніліся. Разгублена маўчалі. Відаць, не бачылі шансу перабрацца на той бераг. Пагергетаўшы, афіцэр жэстам загадаў Міколу перайсці па кладачцы і там чакаць. Выразна паказаў на аўтаматчыкаў: маўляў, кулі дагоняць...

Мікола нязграбна пайшоў. Пад ім бярвенца прагіналася аж да вады, і ён небяспечна хістаўся... Таму ніхто з немцаў нават і не паспрабаваў пайсці следам. Тады ён жэстамі давай тлумачыць афіцэру, што побач з тонкай кладачкай пакладзе тоўстую, якая валяецца ля яго. І яны, разжыгерыўшы ногі, могуць свабодна перабрацца да яго. Афіцэр зразумеў і згадзіўся.

Мікола пад прыцэлам аўтаматчыкаў прасунуў таўсцейшую кладку да немцаў камлём наперад і паклаў побач з тонкай. Немцы зноў гергетнулі – і вось ужо адзін салдат асцярожна, нібы ў цемнаце навобмацак, пасунуўся да Міколы. А ён, сагнуўшыся, трымае паладзеную кладку, быццам каб не крунілася. Калі салдат аказаўся на сярэдзіне ракі, кладкі пад ім захадзілі ходырам. Той захістаўся і ад страху спыніўся. Аўтаматчыкі, Мікола пільна сочыць за імі, скіравалі ўвагу на свайго таварыша: утрымаецца ці сарвецца ў раку...

І ў гэты момант Мікола шпурляе канец кладкі ўбок, у раку. З маланкавым спрытам, якога немцы не чакалі ад цюхцяя, крутануўся і знік у кустах. Наўздагон – працяглы ўсплеск вады. Секанулі запознены чэргі аўтаматаў... І раптам страсянуў наваколле і разнёсся грымотным рэхам выбух гранаты. За ім – дружны залп вінтовак пад магутнае "ура!"...

Мікола здагадаўся: гэта дзяжурны дазор устроіў нямецкім гасцям свінцовы ўраган. Ён асцярожна каля сутокаў на мелкаводдзі перайшоў на левы бераг Вузлянкі. Там дазорныя выводзілі на паляну натоўп аглушаных раззброеных немцаў. Да яго радасна кінуўся Васіль:

— Ну, дзякуй богу! Усё абышлося...

Мікола вымыў рукі і развярнуў для палонных перавязачны пункт. Немцам на здзіўленне, гэта быў рухавы і спрытны мужчына, у якога справа аж гарэла ў руках. Бо гэта былі "залатыя" рукі вопытнага ваеннага санітара.

Палонных пад канвоем павялі ў Куранец. А Мікола з Васілём вярталіся ў Даўбарова. Васіль узрушана расказваў:

— Ты пайшоў дадому, а я месца сабе не знаходзіў. Схапіў наган, гранату і панёсся табе насустрач. Назіраю ля кладкі праз Ментань. Глядзь – а там немцы цябе хапаюць. Гранату не кінеш – і цябе ўложыць. Рвануў да Вузлянкі, да дзяжурных. Паспеў абламаць бакавыя парэнчыны, сцягнуў таўсцейшую кладку пад прыцэл дазорным. Калі ты ўпаў – мы страляць не можам: ты пад дуламі аўтаматаў. А як кінуўся наўцёкі, тады мы і ўрэзалі. Я кінуў гранату ў табун эсэсаўцаў... Салдаты – тыя ж ахвотненька лапкі ўгору і "Гітлер капут!". Ну, а як жа твая "моцная зброя"?

— Не там аказалася... Не ў кішэні, а ў галаве, — пажартаваў Мікола.

Неспадзяваны бой над Вузлянкай прагрымеў хуткацечным салютам дню вызвалення Вілейшчыны ад акупантаў. У выніку – цэлы варожы ўзвод быў узяты ў палон.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

■ ДАТЫ

## Даніна памяці

**СМАРГОНЬ. Кожны год у дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў смаргонцы аддаюць даніну памяці загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны.**

Гараджане і госці збіраюцца на мітынг каля помніка ахвярам фашызму, што знаходзіцца паблізу раённага медыцынскага тэрытарыяльнага аб'яднання. Ускладаюць кветкі. Потым усе накіроўваюцца на «Пераправу» – да абеліска ў памяць вызваленцам Смаргоні, які знаходзіцца ў двух кіламетрах ад горада. Дзеля вызвалення райцэнтра салдатам і афіцэрам прыйшлося фарсіраваць Вілію. Гісторыя сведчыць, што гэта ім удалося без асаблівых намаганняў. У адрозненне ад першай сусветнай вайны, падчас якой Смаргонь абаранялася 810 дзён.

На «Пераправе» пахаваных няма. Але ўсё роўна сюды прыходзяць ветэраны, каб памянуць сваіх аднапалчанаў.

Дарэчы, на Смаргоншчыне засталося 245 ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Толькі далёка не ўсе сустракаюцца тут. Многія хварэюць. Іх у гэтыя дні вінншуюць дома сацыяльныя работнікі упраўлення па працы і сацабароне.

**Ірына РАБУШКА.**

## Жалобны мітынг

**МЯДЗЕЛ. У мінулую пятніцу на месцы былога хутара Бароўка адбыўся жалобны мітынг.**

Тут 60 год таму фашысты спалілі 10 жыхароў хутара, сярод якіх былі і дзеці. Удзельнічалі ў мітынгу прадстаўнікі кіраўніцтва раёна, вучні некалькіх школ раёна.

**Аляксандр ВЫСОЦКІ.**

 

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# Аўтамабіль вайны

### Газ 64

**Газ–64 і яго прадаўжальнік ГАЗ–67 сталі асноўным транспартам для камандзіраў Чырвонай Арміі ў вайне з нямецкім фашызмам.**

Савецка–фінскі ўзброены канфлікт 1939–40 гадоў, які праходзіў ва ўмовах цяжкога бездарожжа, выявіў вострую неабходнасць у гранічна простым, але надзейным і рухомым аўтамабілі ўсюдыходзе. Падобны аўтамабіль "Бантам" ужо з'явіўся ў ЗША. Таму ў студзені 1941 года было дадзенае тэрміновае заданне на конкурснай падставе адначасова ГАЗу і навуковаму аўтатэхналагічнаму інстытуту (НАТІ) на спрошчаны "салдацкі" караткабазны поўнапрыводны аўтамабіль–цягач малога класа грузападымальнасцю 400 кг з адкрытым чатырохмесным кузавам. Тэрмін службы вызначылі ў 5000 км, дырэктыўна былі зададзены вузкая каляіна і абмежаваная даўжыня – як у "Бантама".

Праектаванне ГАЗ-64-416 пачалі 3 лютага 1941 года і вялі імклівымі тэмпамі. 17 сакавіка закончылі кузаўныя работы, 25 сакавіка 1941 года – адразу пасля афарбоўкі – адбыўся першы выезд ГАЗ-64-416. За рулём сядзеў яго стваральнік Віталь Грачоў. Такім чынам, першы савецкі джып, празваны на заводзе "Пігмеем", быў спраектаваны і пабудаваны за 51 дзень і атрымаўся арыгінальным і цалкам удачлівым.

Пастаўленая задача была выкананая поўнасцю. ГАЗ-64-416 на працягу 15–27 красавіка паспяхова прайшоў кароткія вайсковыя выпрабаванні на палігоне Чырвонай Арміі і неадкладна стаў рыхтавацца да вытворчасці.

Асаблівых цяжкасцяў яго асваенне не выклікала, і ўжо ў жніўні 1941 года пачаўся выпуск па часовай тэхналогіі. У прыватнасці, кузаў некаторы час бляхары рабілі ўручную, без спецыяльнай аснасткі, дарма, форма іхняя гэта дазваляла. Да канца года выпусцілі 601 аўтамабіль. Патрапіўшы на фронт, ГАЗ-64 хутка сустрэў "канкурэнцыю" з боку аналагічных па прызначэнні (але зусім не па канструкцыі) амерыканскіх баявых усюдыходаў «Бантам BRC-40», «Віліс-МВ», «Форд GPW», якія пастаўляліся ад вясны 1942 года ("Бантам" – з канца 1941 года) па ленд–лізе. І трэба адзначыць, што "спаборніцтвы" з імі "газік" цалкам вытрымліваў.

Гэта відавочна пацвердзілі параўнальныя выпрабаванні, якія праводзіліся 20 мая – 10 ліпеня 1943 года на палігоне ва ўмовах, наближаных да баявых. Дзякуючы сваім выдатным цягавым уласцівасцям дапрацаваны ГАЗ–64 (яго ўжо тады называлі ГАЗ–67) "...ва ўсіх выпадках руху па цяжкіх дарогах як з прычэпам, так і без яго..." мог пераадольваць кароткія пад'ёмы да 42°, доўгія – да 38° («Віліс» і «Форд» - да 37°), а з 45–мм гарматай на кругу – да 31 °, («яны» - да 26°).

Канечне, машына была яшчэ дастаткова "сырая", не настолькі тэхнічна дасканалая і закончаная, як "Віліс",– цяжка было іншага чакаць пры такіх рэкордных тэмпах праектавання і асваення ў вытворчасці прынцыпова новага, раней не вядомага тыпу аўтамабіля (які ў той самы час мусіў базіравацца па большай частцы на састарэлых агрэгатах).

Пры станоўчых у цэлым водгуках у справаздачы адзначаліся і недахопы, якія выкліканыя былі прымяненнем няякасных матэрыялаў і нізкай культурай вытворчасці – непазбежны вынік ваеннага часу. Адсюль і малая зносаўстойлівасць шэрагу дэталяў (хаця ў межах гарантаванага прабегу), паломкі элементаў рамы і рэсораў (у "Віліса" – таксама), нязручная пасадка пасажыраў і цяжкае кіраванне, вялікі расход паліва і масла, дрэнная работа тармазоў. Не апраўдала сябе вузкая каляіна – аўтамабіль не ўпісваўся ў пракладзеныя грузавікамі сляды, меў недастатковую бакавую ўстойлівасць на схілах гораў, былі нават выпадкі яго перакульвання (як і на "Вілісе").

У канцы 1942 года каляіна пярэдніх колаў была некалькі павялічаная – да 1293 мм. Асабліва гэты недахоп надакучваў на лёгкім бронеаўтамабілі БА–,(–125, пабудаваным у студзені 1942 года на базе шасі ГАЗ–64 і які з мая выпускаўся паралельна з ім у значных колькасцях. Бакавы нахіл у 17° станавіўся для яго ўжо небяспечным. Таму шырокага распаўсюджвання ў арміі ГАЗ–64–416 так і не атрымаў – у 1942 годзе іх было выпушчана ўсяго 67 штук (бронеаўтамабіляў – 2486), хаця яшчэ ў чэрвені завод атрымаў дадатковае заданне. У пачатку 1943 года вытворчасці не было зусім.

ГАЗ-64-416 - аўтамабуль, які вазіў і камандзіраў, быў таксама цягавым сродкам - транспарціраваў гарматы.

ГАЗ-67. Гэта мадэль улічыла недахопы свайго папярэдніка – ГАЗ-64-416.

### ГАЗ–67

Стала зразумелым, што патрэбная істотная мадэрнізацыя ГАЗ–64. План праводзення мадэрнізацыі быў зацверджаны 26 верасня 1942 года. Новая машына атрымала індэкс "67". На ГАЗ–67 аднавілі нармальную каляіну, адзіную для абедзвюх восяў, умацавалі раму, перарабілі пярэднюю частку кузава, увялі пярэднія і заднія крылы, устанавілі падножкі.

Істотна палепшылася рухомасць па разбітых франтавых дарогах з глыбокімі каляінамі (да 0,45 м). Машына ў іх добра ўпісвалася і магла ўпэўнена выходзіць на абочыну праз кюветы з крутымі схіламі, рухаючыся па схілах да 22° без спаўзання. Пераадольвалася і дарога з рэдкай граззю глыбінёй да 0,8 м. Прычэп у любых дарожных умовах мог мець масу да 1200 кг (пасля яна была абмежаваная да 800 кг). ГАЗ–67 стаў больш надзейным і дыхтоўным за свайго папярэдніка, устойліва працаваў на нізкаякасных гаруча–змазачных матэрыялах, вытрымліваў значныя перагрузкі і адпрацоўваў зададзены тэрмін службы. Большага ад яго наўрад ці можна было патрабаваць.

З улікам тэхналагічных і эканамічных фактараў у час вайны гэта быў аптымальны для Савецкага Саюза легкавы армейскі аўтамабіль. Пабудаваны ў красавіку 1943 года ў трох доследных узорах, ГАЗ–67 прайшоў паспяхова армейскія выпрабаванні і ў жніўні запушчаны ў вытворчасць. Першая машына сышла з канвеера 23 верасня 1943 года, а ў кастрычніку быў наладжаны серыйны выпуск. Да канца года зрабілі 718, а усяго да 1945 года – 6068 штук (да канца вайны – 4851).

**Мікола ГАЙДУК,**
**Паводле Інтэрнэт.**

■ ПАВЕДАМЛЯЕ ДАІ

## Дарога – зона небяспекі

**За адны суткі супрацоўнікі ДАІ Мінскай вобласці выяўляюць каля 300 парушальнікаў хуткаснага рэжыму. Многія выпадкі "гонак" на гарадскіх вуліцах або на дарогах за межамі населеных пунктаў заканчваюцца трагічна. Часта вінаватымі ў здарэннях становяцца п'яныя вадзіцелі. Асабліва горка, калі пад коламі транспарту гінуць дзеці.**

17 мая Іосіф К., знаходзячыся нападпітку, кіруючы ВАЗам–2105 ад "Парашкоў" да Старога Места, на вуліцы імя Янкі Купалы не справіўся з кіраваннем і выехаў на сустрэчную паласу, дзе наехаў на вучня СШ№1 Маладзечна. Хлопчык сканаў у бальніцы 4 чэрвеня.

Вельмі трывожная сітуацыя з ДТЗ, дзе церпяць дзеці. Апісаны выпадак не адзінкавы. Ад пачатку года на дарогах вобласці загінула 5 дзяцей. Раненні атрымалі 48. Толькі ад 1 па 17 чэрвеня на тэрыторыі Мінскай вобласці адбылося 12 ДТЗ з удзелам непаўналетніх. Самым маленькім пацярпелым у ДТЗ пасажырам сёлета стала 2–гадовая дзяўчынка з г. Салігорска, а самым малодым пацярпелым пешаходам – яе аднагодак, хлопчык з Мінскага раёна. На тэрыторыі Маладзечанскага раёна адбылося сёлета 10 ДТЗ з удзелам дзяцей, загінула 2 дзіцяці, паранена 11.

Усяго ад пачатку гэтага года на дарогах сталічнай вобласці адбылося 489 дарожна–транспартных здарэнняў, у якіх 498 чалавек атрымалі раненні, 139 загінулі. І 43 здарэнні з іх адбыліся, калі за рулём сядзеў нецвярозы вадзіцель. Толькі на тэрыторыі Маладзечанскага раёна зафіксавана 36 ДТЗ, загінула 4 чалавекі, ранена 39. Два здарэнні – на сумленні п'яных шафёраў. За паўгода на Маладзечаншчыне грэшных на чарку вадзіцеляў, які затрымалі, было 410 чалавек.

Хуткасць – небяспека не толькі для п'янага вадзіцеля. 11 мая каля 20.00 слесар сельскага вытворчага кааператыва "Хажова" П.К., кіруючы "Маздай–323", няправільна выбраў хуткасць руху, не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у левы па ходу кювет і перакуліўся. 27 мая ў 16.30 урач хуткай дапамогі маладзечанка Г.З. на аўтамабілі "Фольксваген Гольф" не знізіла хуткасць на вуліцы Полацкай у Радашкавічах, хаця бачыла "Опель", які выязджаў на праезную частку. Выехала на паласу сустрэчнага руху, сутыкнулася з гэтым "Опелем", з'ехала ў кювет. Яе рух спыніла трансфарматарная падстанцыя.

Яшчэ адна бяда на дарогах – матацыклісты. У асноўным у дарожныя здарэнні на матацыклах трапляюць вяскоўцы. Менавіта яны, па нейкай прычыне, не жадаюць зразумець,- што матацыкл – такі самы транспартны сродак, як аўтамабіль, і для яго кіравання таксама патрэбны ўменне і дакумент, які б пацвярджаў права ваджэння. 13 мая каля 23.30 А.К., кіруючы матацыклам "ММВЗ" па вул. Маладзечанскай у Гарадку каля д. 21, не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у кювет і перакуліся. Матацыклісе нічога не адбылося на месцы.

Матацыкл – папулярны транспартны сродак у падлетках. З пяці ДТЗ, якія ўчынілі дзеці, тры – на матацыклах.

**Дзяржаўтаінспекцыя.**

■ КОНКУРС

# Выйграй прыз

**Чарговы конкурс у "Рэгіянальнай газеце" дазволіць выйграць прыз ад "РГ". Яго дае Першая акумулятарная кампанія – дзве каністры высакаякаснага маторнага масла.**

### Адкажыце на наша пытанне

**Калі ўведзеныя Правілы дарожнага руху, якія дзейнічаюць сёння на дарогах Беларусі?**

Сярод тых, хто правільна адкажа на нашае пытанне і дашле свой адказ на адрас рэдакцыі на паштоўцы з пазнакай "аўтаконкурс", будзе разыграны прыз: 4–літровыя каністры з высакаякасным маторным або прамывачным маслам "ТНК". Вынікі конкурсу будуць аб'яўленыя праз месяц у чарговым выпуску "аўта–мота".

А сярод тых, хто правільна адказаў на наша пытанне, мы разыгралі прыз – высакаякаснае маторнае масла "ТНК" ад Першай акумулятарнай кампаніі. Шчаслiўцам стала настаўніца рускай мовы і літаратуры з сярэдняй школы №1 у Смаргоні Валянціна Богуш. "Адказваю на ваша пытанне лёгка, – піша чытачка, – бо ў маёй дачкі ёсць аўтамабіль "Фольксваген Пасат" і сын марыць пра такую пакупку. Гэты аўтамабіль сышоў з канвеера ўпершыню ў 1974 годзе".

Трапны адказ. Мы рады будзем пабачыць у рэдакцыі пераможцу, каб уручыць прыз!

Правільна адказаў таксама і пераможца мінулага тура нашага конкурсу Анатоль Шпілеўскі. Анатоля ж Шпілеўскага і маладзечанца Аляксандра Івашкевіча, які ў адказе меў недакладнасць, але затое адказ быў афармлены густоўна, з фатаграфіямі аўтамабіляў, мы ўзнагародзілі заахвочвальнымі прызамі – талонамі на бясплатнае тэсціраванне акумулятара і праверку работы генератара і стартэра ў Першай акумулятарнай кампаніі.

**Мікола ГАЙДУК.**

Маладзечанец Анатоль Шпілеўскі не пашкадаваў, што прыняў удзел у нашым конкурсе. І выйграў прыз.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

# Шляхетная вёска Камарова


Сядзібны дом. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

## Гісторыя

**Вёска ўтварылася ад зліцця фальварка Камарова (Камароўшчызна) і вёскі Куцькі. Гісторыю яе падрабязна апісаў мясцовы краязнаўца Іван Драўніцкі, чымі звесткамі і скарыстаемся. Маецца некалькі версій паходжання назвы вёскі. Першая — ад слова *каморнік* (рабочы фальварка, які за выдатакаванае жыллё (каморнае) і сродкі для існавання павінен быў працаваць на пана), другая — ад слова *камора* (збудаванне для захоўвання збожжа). Трэцяя (і найбольш верагодная) — ад прозвішча Комар, бо Камарова (Камароўшчызна) у першай палове XVII стагоддзя была ўласнасцю ашмянскага суддзі Уладзіслава Крыштафа Комара, а потым — Аляксандра Комара — палкоўніка Пскоўскага лейб-драгунскага палка.**

Далей фальваркам валодаў род Хамінскіх. Потым той стаў пасагам адной з Хамінскіх, якая выйшла замуж за графа Старжынскага (Стажэньскага). Дарэчы, звалася яна Марыя-Юзэфа-Зузана-Аўгусціна-Філамена, а сынам сваім давала ад 4 да 7 імён. Старажылы тлумачаць, што графіня верыла ў забабоны і з дапамогай некалькі імён старалася заблытаць злых духаў, якія прыносяць хваробы і няшчасці.

На мяжы XIX і XX стагоддзяў ў Камарове ўзвялі сядзібны дом у стылі мадэрн. А наогул сядзіба налічвала звыш за 30 розных пабудоў: 2 афіцыні (там жыла абслуга), жылыя дамы, кароўнік, бровар, млын, псярня і г. д. Меўся і парк, які першапачаткова займаў 20 гектараў. Сярод усяго там быў і фруктовы сад, аранжарэя. З Францыі нават прывезлі вінаградных смаўжоў. У ежу, як за мяжой, яны не ішлі, проста гаспадары маёнткаў не жадалі адстаць ад еўрапейскай моды і засялілі імі парк.

Фальварак у Марыі Старжынскай арандаваў адвакат Міхаіл Фляркоўскі, які выкарыстоўваў яго як эксклюзіўны Дом адпачынку. Таму натуральная гаспадарка фальварка працавала на абслугоўванне адпачываючых, прадавалі толькі лішкі прадукцыі. Шмат вырошчвалі агародніны, асабліва многа садзілі трускалак. У сажалках разводзілі карпа. У бровары гналі спірт, меліся вінны і піваварны цэхі, цэх па вырабу напояў, па вытворчасці джэмаў, кампотаў, грыбаварня. Адно, што куплялі, — хлеб, які прывозілі з Альшэва ці Свіра. За адзін дзень прабывання ў пансіянаце бралі 3-4 злотых.

Для адпачываючых ў сядзібным доме мелася багатая бібліятэка, танцавальная зала, більярдная, тэнісная пляцоўка. Аж да сярэдзіны сажалкі была пракладзены масцік, і стаяла альтанка на палях. На сажалцы былі 2 байдаркі.

Батрак за працу атрымліваў 7 пудоў збожжа і 4 злотых, спецыяліст (каваль, сталяр) — 9 пудоў і 5 злотых. Падзёншчыкі атрымлівалі ў розныя гады ад 1 да 2 злотых. Кожнай сям'і парабка бясплатна давалі жыллё ў гаспадарскім доме, выдзялялася зямля на полі, а яшчэ 10 сотак пад агародніну і ягаднікі, участак пад лён. З яго рабілі адзенне, бялізну, нават ручнікі і дываны. У каго не мелася каровы — атрымлівалі 3 літры малака штодня. Існаваў і прыгляд за дзецьмі на рабочы час, утрымліваліся яны за кошт пана. З імі займалася выхавацельніца і манашка.

У 1939 пан уцёк. Адмысловая камісія падзяліла маёмасць паміж парабкамі і бяднейшымі людзьмі.

У 1940 годзе на месцы маёнтка арганізаваны калгас "17 Верасня", Свірская МТС. На базе сядзібы ўзнікла школа механізацыі. Пазней яна стала звацца Свірскае ПТВ-207, а некалькі год таму павысіла свой статус да прафесійнага сельскагаспадарчага ліцэя. У 1997 годзе ў вёсцы было 238 двароў, 1024 жыхары.

## Сучаснасць

На шчасце, сядзіба не паўтарыла лёс іншых на Мядзельшчыне, ад якіх засталіся толькі ўспаміны ці рэшткі пабудоў. Многія з будынкаў сядзібы захаваліся. Мабыць, сказалася тое, што яны спатрэбіліся для вучылішча, а некаторым знайшлі іншыя прымяненні. Так, у былым свінарніку размяшчалася ... калгасная кантора. Гэтак было да мінулага года, пакуль мясцовы калгас "Канстанцінава" не далучылі да суседняга. Сядзібны дом, ці як яго завуць у вёсцы — "палац", да нядаўнага часу быў падзелены на кватэры.

У апошнія гады пачаліся добрыя перамены. З дапамогай немцаў абшчыны Хюльхорст свіран пераабсталявалі пад пякарню. Вяскоўцы разбіраюць яе прадукцыю ахвотна, бо хлеб смачны і танны. Выглядае будынак пякарні зусім па-заходняму і надпіс там па-нямецку, дык некаторыя турысты фатаграфуюцца і жартуюць: "Во, будзем гаварыць, што ў Германіі былі".

Ініцыятар многіх спраў у вёсцы — дырэктар ліцэя Эдуард Вайцяховіч. Ён выношвае ідэю адраджэння сядзібы:

— У ліцэі мы вучым дзяцей, як працаваць на зямлі. Але важна і навучыць, як трэба арганізаваць жыццё на вёсцы. Лічу, што лепш за прынцыпы арганізацыі жыцця на зямлі, чым сядзіба, ніхто не прыдумаў. І таму варта яе адрадзіць. Але адроджаная сядзіба не павінна быць музеем. Як і раней, там павінны жыць і працаваць людзі, каб не гаварылі: "А, гэта ж усё несапраўднае — музей". Трэба паказаць, што такім можа быць наша жыццё.

Таму думаюць зараз у Камарове пра рэстаўрацыю сядзібнага дома (але ж гэта вымагае шмат сродкаў). Адраджаецца і старадаўні парк. Летась з'явіліся там прыгожыя масцікі, дарожкі, альпійскія горкі. Паклапацілася пра гэта недзяржаўнае грамадская аб'яднанне "Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю". А перад уваходам у парк узвышаецца брама. Гісторыя яе з'яўлення цікавая. Некалі яна стаяла пры ўездзе ў Альшэўскую сядзібу. У савецкі час яе перавезлі ў Свір, хацелі рабіць помнікі, аднак так брама год з дзесяць і праваляласся. Далей, кажуць, выменялі на 10 водаправодных кранікаў і ў сярэдзіне 80-х гадоў ўстанавілі ў Камарове. У падмурак, як тады модна было, заклалі бутэльку з паперай з пасланнем да нашчадкаў.

У адным кутку вёскі старую шляхетнасць мястэчка падтрымліваюць. Там, дзе стаяць катэджы работнікаў ліцэя, не заўважыш перад дамамі звыклых для вёскі платоў, агародчыкаў. Растуць кветкі, дрэвы, дзе-нідзе і штосьці з камянёў выкладзена, упрыгожвающ тэрыторыю каля альтанкі.

А нядаўна ў Камарове створаны цэнтр падтрымкі вясковага прадпрымальніцтва. Праект падалі мясцовы сельскагаспадарчы ліцэй і грамадскае аб'яднанне "Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю". У рамках сумеснай праграмы яго падтрымалі ўрад Беларусі і прадстаўніцтва Праграмы развіцця ААН у краіне. А менеджарам праекта (як ужо, пэўна, здагадаліся) з'яўляецца Эдуард Вайцяховіч.

— Прызначэнне цэнтра — стварыць мадэль рынкавай эканомікі на вёсцы і прадэманстраваць людзям, як можна у нас зарабляць грошы. І Камарова павінна стаць пляцоўкай для перадачы гэтага вопыту іншым арганізацыям і людзям.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Актыўны чалавек на вёсцы — Эдуард Вайцяховіч. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.


Брама на ўваходзе ў парк. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.


Пякарня ў Камарове. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# А то будзе, як тады

**(Старадаўняя гісторыя)**

Аднойчы дзядзька сабраўся ў Вільню. Відаць, па гаспадарцы што-небудзь спатрэбілася ці так што, але звязаў кавалак сала з хлебам і пайшоў. На грошы жонка ў адпаведным месцы прышыла непрыкметную кішэню, што і ў росшуку не знойдуць. А назад павінны быў вяртацца тады, калі сустрэне сваіх, што паехалі раней – на кірмаш.

Дзе-нідзе з перадышкай, дзе-нідзе сядзеў на возе, дзядзька павольна рушыў у віленскі бок. І на начлег прасіўся да добрых людзей. А іх і тады, і цяпер хапае. Вось толькі перад самай Вільняй патрапіў у гісторыю. Адышоўся наперад ад такіх, як і сам, бедакоў.

Кусты зашапацелі, і на дарогу выйшаў здаровы, як бык, дзяціна. "Ну, вось зараз пачнуць рабаваць", — пранеслася ў дзядзькавай галаве.

Хлопец пераминаўся з нагі на нагу, памахваў вялізным калом, памерам з дзядзьку.

— Куды ідзеш, дзядзька?

— У Вільню.

— Нашто?

— Сустрэць сваіх, перадаць навіны. Купіць сёе-тое з прададзенага.

— Грошы, значыць, маеш?

— Я ж кажу, ад прададзенага. А ці прададуцца гаршкі, ці не, не ведаю. Грошай жа з сабою не маю – на, паглядзі.

Кусты зноў зашапацелі, і на дарогу выйшлі яшчэ два рабаўнікі.

— Ну, дык тады боты здымай!

— Хлопчыкі, я вам бы з радасцю аддаў, але ж будзе, як тады.

Боты і сапраўды былі добрыя. За іх, можа, крыху і пераплаціў дзядзька ў свой час.

Старэйшы рабаўнік навастрыў вушы:

— А што было тады?

— Ну, тады боты вам аддаў, але ж гэта дабром не скончылася... Чалавек жа я вядомы. Сапраўды будзе, як тады.

Рабаўнікі не вельмі спужаліся, але асцярожнасць і цікаўнасць усё ж перамаглі.

— Ідзі ты, чалавек божы, але скажы, а што было тады. І ботаў не возьмем. Толькі скажы.

— А тады вы боты ўзялі, але не аддалі.

Вымавіўшы гэта, дзядзька павольна рушыў паміж рабаўнікоў.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

